**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 10 (883) 9 сакавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Фота Ул. Скрабатуна.



Вясна пачынаецца з прыгожых кветак для жанчын!



# Мінэканомікі распрацуе сістэмныя меры па падтрымцы жаночага прадпрымальніцтва

**Міністэрства эканомікі распрацуе шэраг сістэмных мер па падтрымцы жаночага прадпрымальніцтва, паведаміў сёння журналістам намеснік дырэктара дэпартамента па прадпрымальніцтве Мінэканомікі Дзмітрый Красоўскі, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

"Уклад жанчын у развіццё малога і сярэдняга прадпрымальніцтва пакуль не такі вялікі, як мог бы, але мы ўспрымаем гэта не як праблему, а як патэнцыял для росту. У гэтым годзе па даручэнні ўрада будуць унесены дапаўненні ў праграму МСП у Беларусі, дзе з'явяцца сістэмныя меры па падтрымцы жаночага прадпрымальніцтва. Гэта не нейкая кампанія на год, а меры, якія будуць рэалізоўвацца рэгулярна. Упершыню жаночае прадпрымальніцтва стане аб'ектам дзяржаўнай палітыкі па падтрымцы малога і сярэдняга бізнесу", – падкрэсліў намеснік дырэктара дэпартамента. Дзмітрый Красоўскі таксама адзначыў, што сённяшні ўклад МСП на ўзроўні 28 працэнтаў у эканоміку краіны з'яўляецца недастатковым. "Зразумела, будуць прыняты меры, каб давесці гэту долю да 2020 года як мінімум да 40 працэнтаў. А жаночае прадпрымальніцтва – гэта адзін з напрамкаў, які з'яўляецца для нас цікавым", – растлумачыў ён. Пры гэтым прадстаўнік Мінэканомікі расказаў, што падрыхтаваны каляндар мерапрыемстваў па падтрымцы жаночага прадпрымальніцтва, якія пройдуць у 2017 годзе. Размова ідзе аб аказанні кансультацый, правядзенні канферэнцый і семінараў.

*БелТА.*



ISSN 2077-8023



Полацкі раён

# Першы ток новай ГЭС

■ Чэслаў Якубовіч.

**Маштабныя два праекты па збудаванні каскаду гідраэлектрастанцый на рацэ Заходняя Дзвіна выйшлі на стадыю завяршэння.**

Услед за буйнейшай у краіне Віцебскай ГЭС магутнасцю 40 МВт напрыканцы зімы дала першы ток падобная станцыя паблізу Полацка. Там уключылі ў сетку, праўда, пакуль у пуска-наладачным рэжыме адзін з пяці гідраагрэгатаў турбіны Г-3. Мясцовую станцыю пачалі будаваць у 2011 годзе і за гэты час узвялі абвадны канал з дарогамі, вытворчай базай, неабходнай інфраструктурай. Потым спецыялісты забетаніравалі ўнушальную бетонную пляцоўку для скідвання мас вады з шасцю вялізнымі затворамі. Была пабудавана і аснашчана сучасным абсталяваннем машынная зала – сэрца новай ГЭС. Фінансаваліся работы за заказе РУП "Віцебскэнерга" за кошт крэдытаў Еўразійскага банка развіцця ў суме 100 млн. долараў. Генеральным падрадчыкам стала расійская кампанія "Тэхнапрамэкспарт". Пасля поўнага запуску новай станцыі ў эксплуатацыю пяць магутных турбін чэшскай вытворчасці дазволяць штогод выпрацоўваць да 110 млн. КВт-гадзін электраэнергіі. Паступова пачнуць уводзіцца ў эксплуатацыю і астатнія гідраагрэгаты, гэта ГЭС стане адной з самых магутных у Беларусі. Першапачаткова яе пуск планаваўся раней, у 2015 годзе, але па шэрагу прычын тэрміны работ зацягнуліся. На гэтым дзяржпраграма развіцця энергасістэмы на Дзвіне не завершыцца, ГЭС меншай магутнасці плануецца пабудаваць у раёне Бешанковіч і ля Верхнядзвінска.

Лепельскі раён

# Вендэта па-лепельску

■ Станіслаў Раманчук.

**Норавы сучаснага свету сталі вельмі ўжо жорсткімі, усё часцей і нашы суайчыннікі помсцяць сваім крыўдзіцелям дзікім чынам.**

Падобная страшная гісторыя разыгралася днямі ў Лепелі, дзе глыбокай ноччу дзяжурнаму райаддзела міліцыі патэлефанаў мужчына. Ён і паведаміў, што дамоў толькі што вярнулася на машыне жонка, разбудзіла і шакіравала словамі аб забойстве іх агульнай знаёмай. Перад гэтым яго суджаная паспела перапрануцца ў чыстае адзенне, спаліла акрываўленую вопратку і напісала нават перадсмяротную запіску, бо збіралася скончыць жыццё самагубствам. Міліцыя пад раніцу на тэрыторыі гаражнага кааператыва ў райцэнтры знайшла цела забітай 26-гадовай жанчыны. У загінуўшай былі шматлікія колата-рэзаныя раны твару, шыі і рук. Як высветлілася потым, гэтыя дзве гараджанкі зналі адна другую яшчэ з дзяцінства, вучыліся разам і нібыта сябравалі. Па гэтай прычыне ахвяра перад забойствам была на дні нараджэння сваёй знаёмай. Сама ж імянінніца нават спіртное ў той суботні вечар не ўжывала, бо паабяцала гасцей развесці на аўто па дамах. Што ж здарылася паміж дзвюма маладымі жанчынамі потым, з цягам часу высветліць следства. Але адна з асноўных версій гэтай бяды – забойства на падставе рэўнасці. Нібыта не падзялілі сяброўкі аднаго мужчыну, хоць у сям'і агрэсіўнай гаспадыні расце дзіця. Падазронымі ў смяротэльным граху следчыя лічаць сямейную пару, разам з жонкай быў затрыманы і яе муж. Па раскрытай крымінальнай справе праводзяцца прызначаныя экспертызы, вывучаюцца знойдзеныя доказы гвалтоўнай смерці, у тым ліку нож. Следства высветліць, ці ў сваім розуме была маладая жанчына, калі рашылася на такі дзікі ўчынак.

Пастаўскі раён

# Зноў на п'едэстале

■ Кастусь Александровіч

**З-за эканамічнага крызісу ў Беларусі многія гульнявыя віды спорту апынуліся на мяжы выжывання, шэраг клубаў перасталі існаваць.**

На шчасце, пастаўская школа валейбола захавалася, а мясцовая мужчынская каманда ўжо чвэрць стагоддзя застаецца нязменным удзельнікам чэмпіянату краіны. Раней пастаўчане даволі паспяхова гулялі ў першай лізе, а сёлета пасля трохгадовага перапынку выйгралі сярэбраныя медалі ў дывізіёне "Б" вышэйшай лігі. Такі поспех да мясцовага "Атланта" прыйшоў пасля дзвюх выязных перамог у Гродне з лікам 3:0 у заключным туры і дазволіў абысці канкурэнта, аршанскі "Узлёт". А ўпершыню пастаўчане заваявалі "бронзу" ў сезоне 1993-1994 гадоў, усяго ўжо 10 разоў аказваліся на п'едэстале гонару нацыянальнага першынства, двойчы бралі "золата". Сакрэт такіх дасягненняў у тым, што вельмі ўжо плённа працуе аддзяленне валейбола Пастаўскай ДЮСШ. Адсюль у свой час выйшлі трое валейбалістаў мужчынскай зборнай Беларусі, майстрам спорту міжнароднага класу і таксама ігракам нацыянальнай зборнай стала Галіна Вярцінская. Некалькі пастаўчан зараз гуляюць на прафесійным узроўні ў элітных беларускіх клубах. Ёсць у моладзі з каго браць прыклад, бо большасць цяперашніх валейбалістаў "Атланта" не кураць, маюць вышэйшую адукацыю, альбо яшчэ вучацца. Дарэчы, у сярэдзіне сезона склад пастаўчан узмацніў Ян Сакалоўскі з суседняга Глыбокага і разам з мясцовымі хлопцамі стаў прызёрам нацыянальнага першынства.

# Аб самым надзёным

## ДАЎНО ТРЭБА БЫЛО Ў БЕЛАРУСІ ЎВЕКАВЕЧЫЦЬ ПАМЯЦЬ ЗВЫШ 200 ТЫСЯЧ АХВЯР МАСАВЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Самае галоўнае, што саму ідэю стварэння агульнанацыянальнага мемарыялу на месцы болю і пакутаў наша дзяржава падтрымлівае. Патрэбна ўвекавечыць памяць і на гранітных плітах назваць прозвішчы знішчаных без віны суайчыннікаў. Захаваная гістарычная памяць – адзін з важнейшых атрыбутаў адбудовы дзяржаўнасці Беларусі.**

Перад прыходам надзвычай цёплай сёлета каляндарнай вясны ў паўсядзённым жыцці беларусаў адбылося адразу некалькі адметных падзей. Глава дзяржавы пабываў, верагодна, у кароткім зімовым адпачынку ў Сочы. Аднак там яму не ўдалося сустрэцца і перагаварыць са сваім расійскім калегам, каб нарэшце ўрэгуляваць застарэлы і рэкордны па працягласці нафтагазавы канфлікт. Другі год працягваецца гэта апошняя спрэчка саюзнікаў, што дзіўна, якая адбываецца перад святкаваннем 25-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Расіяй. На мой, погляд суседзі не ідуць на кампраміс толькі таму, што самі адчуваюць сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці, а заходнія санкцыі за пуцінскую агрэсію ў Крыме, Данбасе і Сірыі аказаліся ўсё ж для расіян адчувальнымі.

На наша патрабаванне купляць расійскіх газ па роўнадаходных цэнах Крэмль адказвае найперш сваёй умовай разлічыцца за немалыя даўгі ў памеры амаль ужо 600 млн. долараў. Тым часам на працягу некалькіх выходных у нашых буйных гарадах прайшла серыя маршаў і мітынгаў пратэсту беларусаў, абураных нізкім узроўнем жыцця і найбольш прынятым дэкрэтам № 3. Да іх правядзення апазіцыя мела невялікае дачыненне, гэта была ініцыятыва народных нізоў праз сацыяльныя сеткі. Што характэрна, афіцыйныя СМІ аднесліся да пратэстаў суайчыннікаў даволі негатыўна, альбо замоўчвалі гэтыя падзеі.

Праўда, ад сталіцы да ўскраін мясцовыя газеты передрукавалі па камандзе артыкул з цэнтральнага органа "СБ Беларусь сегодня" "Не будзіце ліха" з галоўнай думкай: падобны ціск вуліцы на ўладу толькі аслабляе краіну і не спрыяе дасягненню агульнага дабрабыту. З іншага боку добра, што ўсё болей суайчыннікаў перастаюць баяцца, калі няпростае жыццё зусім ужо дапякло, а дзяржаўныя мужы павінны пачуць іх настрой. Пакуль улады думалі, што рабіць далей, гэта ж вядучае выданне, орган прэзідэнцкай Адміністрацыі, арганізавала і правяло "круглы стол" "Курапаты – мемарыял памяці і смутку". На ім нарэшце загучалі справядлівыя думкі аб аб'яднанні беларусаў, калі пашыраюцца пагрозы нашаму агульнаму дому, нашай сінявокай Беларусі.

Справа ў тым, што на прайшоўшых акцыях, да прыкладу, у прыгранічных Віцебску і Смаленску былі заўважаны першыя "засланыя казачкі" альбо мясцовыя прыхільнікі "русского мира". Адзін з такіх маргіналаўправакатараў быў адзеты нават у рускую ваенную форму, там прагучалі і правакацыйныя выкрыкі "Слава России", "Россия нас спасёт" і "Спасибо Путину!". Аднак нідзе яны падтрымкі не займелі, а вось да гэтых праяў сепаратысцкіх настрояў трэба аднесціся адэкватна і даваць ім належную праваную рэакцыю. Паколькі час цяпер вельмі няпросты, то ідэя з народным мемарыялам у Курапатах правільная, хоць яе даўно раней належыла ажыццявіць.

На прайшоўшым "круглым стале" адзін з кіраўнікоў КДБ Беларусі І. Сергеенка агучыў страшныя лічбы. За перыяд з 20-х па 50-я гады мінулага стагоддзя толькі на нашай зямлі было арыштавана і забіта амаль 236 тысяч грамадзян тагачаснай БССР. Такім чынам бальшавіцкія лідары абаранялі і ўмацоўвалі тады сваю ўладу. Згодна дадзеных архіваў, 176 тысяч пазней былі рэабілітаваныя, а трэба ўлічыць яшчэ, што многія з дакументаў аб рэпрэсіях былі знішчаны і проста не ўцалелі падчас ІІ Сусветнай вайны. Паспрыялі правядзенню "круглага стала" акцыі пратэсту маладых беларусаў супраць будаўніцтва Бізнес-цэнтра ў гэтым святым месцы.

Далей падзеі разгортваліся ўжо імкліва. Супраць гэтага будаўнічага праекта ў Курапатах выказаліся вядучыя беларускія хрысціянскія канфесіі. Нават праўладная Ліберальна-дэмакратычная партыя запатрабавала высветліць, хто мог даць дазвол весці будаўніцтва на месцы, палітым крывёй соцень тысяч бязвінных людзей. Крыху пазней работы на гэтай пляцоўцы прыпыніліся, з пратэстуючымі сустрэўся асабіста мэр Мінска. Самае галоўнае, што саму ідэю стварэння агульнанацыянальнага мемарыялу на месцы болю і пакутаў наша дзяржава падтрымлівае. Патрэбна ўвекавечыць памяць і на гранітных плітах назваць прозвішчы знішчаных без віны суайчыннікаў.

З такіх вось канкрэтных крокаў, а не з ужо створанай "Лініі Сталіна" крок за крокам будзе расці, умацоўвацца самасвядомасць беларусаў, як нацыі ў бурлівым XXI стагоддзі. Захаваная гістарычная памяць – адзін з важнейшых атрыбутаў адбудовы дзяржаўнасці Беларусі. Кансалідацыя грамадства зараз вельмі патрэбна нашай краіне. Ранейшыя ўстаноўкі "хто не з намі, той супраць нас" аджылі сваё, а з цягам часу новы агульнанародны помнік-мемарыял у Курапатах павінен з'явіцца ў беларускай сталіцы. Ён стане Пантэонам памяці і смутку, святым месцам у нашай краіне.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Серада 08.03.17 | | | | Чацвер 09.03.17 | | | | Пятніца 10.03.17 | | | | Субота 11.03.17 | | | | Нд.12.03. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +5 | +4 | +2 | +2 | +6 | +4 | +4 | +2 | +2 | +1 | +1 | +1 | +3 | +1 | -1 | -1 | +1 | +1 |
| Ціск | 749 | 751 | 753 | 753 | 753 | 751 | 749 | 747 | 745 | 743 | 743 | 745 | 745 | 745 | 744 | 744 | 743 | 744 | 745 | 745 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-У | 5 Пд | 3 Пд-З | 2 Пн-З | 2 У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 3 Пн-У | 2 Пн-У | 3 Пн | 3 Пн-З | 2 Пн | 2 У | 2 Пд-У | 2 Пн-У | 4 Пн | 5 Пн | 4 Пн | 6 Пн-У | 5 Пн-У |
| Вільготнасць | 94 | 100 | 93 | 92 | 97 | 100 | 96 | 94 | 96 | 99 | 95 | 93 | 98 | 97 | 72 | 88 | 96 | 98 | 94 | 93 |

## Дзень за днём

**За затрымкі заробкаў летась у Беларусі аштрафавалі звыш 4 тысяч кіраўнікоў. “Раснафта” паабяцала сёлета паставіць у Беларусь 10,2 млн. тон нафты. Беларусь закупіла першую партыю нафты ў Ірана. У студзені прыбавілася 4,6 тысячы беспрацоўных. Колькасць супрацоўнікаў Адміністрацыі прэзідэнта скарацілі да 118 чалавек. У МЗС Беларусі дапусцілі павелічэнне тэрміну бязвізавага ўезду да 14 дзён. За 2 гады ў краіне індывідуальных прадпрымальнікаў стала на 13 тысяч меней. Маладым спецыялістам і студэнтам стала цяжка знайсці работу. З сакавіка падаражэлі тарыфы ZALA і byfly. У Мінску значна прыбавіцца беларускіх класаў і груп у дзіцячых садах.**

# Важнейшыя навіны свету

**КНДР.** Савет бяспекі ААН аднадушна асудзіў праведзеныя краінай пускі балістычных ракет, прэзідэнт ЗША Дональд Трамп паабяцаў таксама жорстка разабрацца з ёй.

**Германія.** Старшыня Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы Вольфганг Ішынгер папярэдзіў, што свет зараз уступіў у самы небяспечны перыяд з 1945 года.

**ЗША.** Прэс-сакратар Белага дома Ш. Спайсер заявіў, што Д. Трамп даў ясна зразумець Пуціну, што чакае ад Расіі спыненне гвалту ў Данбасе і вяртанне Крыма Украіне.

**Расія.** Віцэ-прэм’ер урада і міністр энергетыкі РФ А. Новак запатрабавалі, каб улады Беларусі заплацілі даўгі ў суме 550 млн. $ за пастаўлены летась газ у поўным аб’ёме.

**Украіна.** Урад краіны падаў у СГА іск супраць Расіі за незаконна ўведзеныя ёй абмежаванні на транзіт украінскіх тавараў і ежы на 1 млрд. $ у Казахстан і Кыргыстан.

**Галандыя.** Даследчая група Bellingcat назвала палкоўніка запасу ГРУ Мінабароны РФ С. Дубінскага адным з арганізатараў дастаўкі “Бука”, які збіў малайзійскі “Боінг”.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус заявіў, што літоўцам хацелася, каб беларусы наблізіліся да еўрапейскага мышлення, плыняў супрацоўніцтва і дыялогу з ЕС пры інтэграцыі з РФ.

**Індыя.** Новы сусветны рэкорд устанавіў урад краіны, які са свайго касмічнага цэнтра запусціў космас 104 спадарожнікі з дапамогай адной ракеты, на чарзе палёт да Венеры.

**Іспанія.** На выставе MWC у Барселоне кампанія HMD Global паказала адроджаны славуты фінскі брэнд мабільніка Nokia 3310 і тры віды смартфонаў Nokia сярэдняга класу.

**Расія.** Цэнтр расследаванняў заявіў, што прэтэнзіі А. Лукашэнкі да С. Данкверта абгрунтаваныя, гэты чыноўнік-мільярдэр незаконна валодае кампаніямі ў сферы АПК.

**Англія.** Палітолаг М. Галеотці заявіў, што Беларусь – гэта не Крым, тут Расія не атрымае падтрымкі большасці народа, А. Лукашэнка бачыць рэальнае становішча Пуціна і РФ.

**Фінляндыя.** З-за росту напружанасці ў Прыбалтыцы і агрэсіўных дзеянняў Расіі ва Украіне ўрад краіны вырашыў павялічыць колькасць фінскай арміі на 50 тыс. рэзервістаў.

**Літва.** Былы старшыня Сейма краіны В. Ландсбергіс звярнуўся з прапановай да А. Лукашэнкі разам абараняцца ад пагроз, ідучых і беларускай дзяржаве з боку Крамля.

**Малайзія.** Карэйскія СМІ паведамілі аб смерці Кім Чон Нама, старэйшага брата главы КНДР Кім Чэн Ына, ён пакінуў краіну і жыў у Шанхаі да атраўлення агентамі спецслужб.

**Польшча.** У Варшаўскім універсітэце сацыёлаг А. Вардамацкі заявіў, што па апытаннях, беларусы не хочаць увайсці ў склад Расіі, нягледзячы на арыентацыю на саюз з РФ.

*Служба інфармацыі “ВГ”(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Абмяркоўваецца магчымасць адмены ліцэнзавання некалькіх відаў дзейнасці



■ TUT.BY

**Міністэрства эканомікі падрыхтавала праекты ўказаў аб скарачэнні ліцэнзаваных відаў дзейнасці. Пра гэта паведаміла намеснік міністра эканомікі Ірына Касцевіч на Асамблеі дзелавых колаў.**

У цяперашні час ліцэнзаванымі застаецца 36 адміністрацыйных працэдур і 192 іх складнікі. «Як мы бачым, сур’ёзная функцыя рэгулятара выконваецца дзяржавай праз выдачу ліцэнзій. Па даручэнні ўрада дзяржаўныя органы ўнеслі прапановы па спрашчэнні ліцэнзаваных відаў дзейнасці. Адмяняюцца тры ліцэнзаваныя віды дзейнасці ў галіне сувязі, і восем спрашчаецца. Але гэта толькі маленькія крокі па спрашчэнні ліцэнзійных патрабаванняў», - сказала Касцевіч. «На думку бізнесу, рэзервы яшчэ ёсць. Бізнес прапануе адмяніць ліцэнзаванне юрыдычных кансультацый, пасрэдніцкія паслугі ў здзелках з нерухомасцю, аказанне псіхалагічнай дапамогі і некаторыя іншыя», - патлумачыла яна.

Паводле слоў намесніка міністра, «іх чакае сур’ёзны дыялог органаў дзяржкіравання з бізнесам па знаходжанні ўзгодненай пазіцыі па адмене альбо спрашчэнні шэрагу ліцэнзійных патрабаванняў». Праект указа прэзідэнта, які прадугледжвае сур’ёзнае скарачэнне ліцэнзаваных відаў дзейнасці, будзе абмяркоўвацца рабочай групай з удзелам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Качанавай. Мяркуецца, што водзыў ліцэнзій будзе ажыццяўляцца толькі ў тым выпадку, калі грубыя парушэнні суб’ектам гаспадарання не ліквідаваны або здзяйсняюцца паўторна.

Другім напрамкам, па якім Мінэканомікі выходзіць з ініцыятывай, з'яўляецца аптымізацыя адміністрацыйных працэдур. На 1 студзеня 2017 года ў Беларусі дзейнічаюць 787 адміністрацыйных працэдур. «Краіна праводзіла сур’ёзную працу па аптымізацыі адміністрацыйных працэдур. У 2012 годзе колькасць працэдур было 575. За мінулыя гады мы прыраслі амаль на 200 працэдур. За 2016 - пачатак 2017 года адменена 41 адміністрацыйная працэдура, 17 спрошчана. Аднак за гэты ж перыяд уведзена 37 новых адміністрацыйных працэдур у рамках рэалізацыі міжнародных дагавораў і прынятых заканадаўчых актаў. Пры гэтым увядзенне новых працэдур цяжка назваць неабгрунтаваным», - сказала Касцевіч.

У цяперашні час унесена прапанова па скарачэнні 21 і спрашчэнні 13 працэдур. «Таму, паважаны бізнес, чакаем прапаноў, кніга прапаноў яшчэ не закрытая», - заявіла намеснік міністра.

У падрыхтаваным праекце ўказу акцэнт робіцца на тым, што не павінна быць такіх адміністрацыйных працэдур, якія «сапраўды аказваюць залішнімі, лішнімі і цяжкімі для бізнесу». «У праекце закладзены прынцып: адну працэдуру ўводзіш - дзве адмяняюцца. Гэтае правіла, якое будзе ўсталёўвацца для дзяржаўных органаў. Гэта не ноу-хау - гэта прынцып, які дзейнічае ў шэрагу краін і атрымаў станоўчую практыку», - сказала Ірына Касцевіч.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Жодзіна.** На выязным прыёме грамадзян глава адміністрацыі прэзідэнта Н. Качанава прызнала недапрацоўкі Дэкрэта аб ”дармаедах” і што адмяніць яго можна без праблем.

**Мінск.** Галоўны рэдактар газеты “Народная Воля” І. Сярэдзіч пацвердзіў, што падчас сустрэчы з ім А. Лукашэнка гаварыў аб неабходнасці перагляду шэрагу норм Канстытуцыі

**Астравец.** З-за выяўленых дэфектаў канструкцыі на Нававаронежскай АЭС, як папярэдзіў эксперт А. Ажароўскі, можа запатрабавацца замены падобны турбагенератар для БелАЭС.

**Жлобін.** Рассельгаснагляд заблытаўся ў датах і памылкова абмежаваў пастаўкі прадукцыі з мясцовага мясакамбіната, але ўвёў санкцыі супраць яшчэ 3-х айчынных прадпрыемстваў

**Мінск.** У нас, як адзначыў фінансавы эксперт В. Іасуб, унікальная сітуацыя, паўсюдна абараняюць беспрацоўных, а нашых абавязваюць плаціць за тое, што засталіся без працы.

**Смалявічы.** Супраць былога дырэктара РУП “Інстытут плодаводства” распачалі крымінальную справу за перавышэнне службовых паўнамоцтваў і махінацыі.

**Шклоў.** Вядомы палітык Р. Кастусёў паведаміў, што за апошнія 5 гадоў да крымінальнай адказнасці прыцягнулі 3 кіраўнікоў райвыканкама, асудзілі 5 дырэктараў райкамунгаса.

**Мінск.** Калі Крэмль, як заявіў эканаміст Я. Раманчук, сёлета знізіць пастаўкі нафты да 12 млн. тон, не дасць крэдыту, заблакуе экспарт ежы, то нас чакае жорсткае прызямленне.

**Гродна.** Міліцыя выявіла аферу і распачала крымінальную справу супраць дырэктара мясцовай філармоніі за арганізацыю фальшывых канцэртаў у суме амаль 250 тыс. рублёў.

**Горкі.** Былога загадчыка кафедры БДСХА за неаднаразовае атрыманне хабару ад студэнтаў пакаралі 4,5 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыйай маёмасці.

**Гомель.** Улады не пойдуць, як запэўніў юрыст прафсаюза РЭП Л. Суздаленка, на масавыя арышты “дармаедаў”, бо ў горадзе толькі адзін СІЗА на 70 месц, а будуць іх штрафаваць.

**Мінск.** Пра якую зарплату 500 $, як заявіў эканаміст А. Абуховіч, можна гаварыць, калі краіна не зарабляе цяперашні ўзровень заробкаў, каля паловы заводаў на справе стратныя.

**Бялынічы.** Падчас спрэчкі 72-гадовай свекрыві з 45-гадовай нявесткай жанчыны схапіліся за нажы і ў двары прыватнага дома параненая старэйшая зарэзала маладзейшую.

**Гродна.** На канцэрце групы Brutto С. Міхалка ўсе гледачы ўсталі на калені ў памяць загінуўшых у зоне АТА на Данбасе ўкраінскіх воінаў падчас выканання песні “Гары”.

**Гомель.** Тэлеканал “Белсат” паказаў сюжэт аб тым, як імкліва збяднелі многія жыхары некалі квітнеўшага Доўскага сельсавета з вельмі малымі заробкамі ў вяскоўцаў.

*Служба інфармацыі “ВГ”(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Міністэрства прамысловасці Беларусі выставіла на продаж прыборабудаўнічы завод, заводы “Эвістар”, радыёдэталяў “Маналіт”, ААТ “Лантан” і завод “ПАК”.

**Талачын.** На Коханаўскім трубным заводзе “Белтрубпласт” пачалі мадэрнізацыю лініі для выпуску ўпершыню ў Беларусі двухслойных труб з поліэтылену асаблівай трываласці.

**Глыбокае.** У першым паўгоддзі на МКК павінны завяршыць будаўніцтва новага цэха па выпуску сухой дэмінералізаванай сыраваткі і сухога хуткарастваральнага малака.

**Полацк.** Рэктарат дзяржуніверсітэта правёў выхаваўчую гутарку і запатрабаваў пісьмовых тлумачэнняў ад дацэнта А. Дадонава за яго публічныя грубыя антыўкраінскія выказванні.

**Віцебск.** Ва ўсіх раёнах вобласці да веснавой сяўбы створаць мехатрады па ворыве глебы, гаспадаркі атрымаюць 34 карма- і 20 новых збожжаўборачных камбайнаў.

**Талачын.** Галоўны рэдактар райгазеты “Наша Талачыншчына” В. Бірукоў напісаў і даў фота, у якіх жахлівых умовах трымаюць цялят на ферме племзавода “Рэканструктар”.

**Браслаў.** Следства выявіла, што створаная 44-гадовым гараджанінам злачынная група выкрала паліва з магістральнага нафтапровода на суму звыш 102 тысяч рублёў.

**Наваполацк.** Вечарам ля кінатэатра “Космас” п’яны 41-гадовы кіроўца, пазбаўлены правоў, урэзаўся ў маршрутку, на шчасце, ніхто з 10 пасажыраў не пацярпеў.

**Докшыцы.** Па просьбе гараджан абласны філіял УП “Медтэхніка” ў будынку гарадской лазні зноў адкрыў спецыялізаваны магазін “Оптыка” з вырабам акуляраў на месцы.

**Талачын.** Следчыя завяршылі расследванне справы 38-гадовага мужчыны, які дамовіўся купіць скутар у знаёмых, напіўся і падчас спрэчкі задушыў дваіх вяскоўцаў, мужа і жонку.

**Паставы.** Пасля атрымання хабару за выдачу чарговага ліпавага бальнічнага лістка міліцыя затрымала ў службовым кабінеце аднаго з урачоў-тэрапеўтаў райбальніцы.

**Віцебск.** У абласным цэнтры пачаўся продаж білетаў на XXVI фестываль мастацтваў “Славянскі базар”, які пройдзе з 13 па 17 ліпеня, цэны на квіткі практычна не змяніліся.

**Мёры.** З пастырскім візітам райцэнтр наведаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч і правёў для вернікаў у касцёле Унебаўзяцця панны Мары сакрамент Бежмавання.

**Браслаў.** Вельмі папулярным у гараджан стаў новы фірменны магазін “Мясная лаўка”, які адкрыў агархолдынг “Славянскі Велес” у самым буйным жылым мікрараёне райцэнтра.

**Полацк.** Міліцыя затрымала і змясціла ў СІЗА 48-гадовага гараджаніна, які на падпітку днём пашкодзіў аўтамабіль “хуткай дапамогі”, калі медыкі прыехалі па выкліку.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Вандроўка аднаго дня: Глыбокае-Дунілавічы-Лучай-Варапаева-Паставы-Камаі-Лынтупы-Глыбокае

■ Уладзімір Скрабатун

**Дзякуй нашым настаўнікам, якія арганізоўваюць вандроўкі для вучняў – нашых дзяцей і ўнукаў па Беларусі. Перадусім, гэта знаёмства са славутымі замкамі ў Міры і Нясвіжы, а таксама наведванне Хатыні і Мінска.**

Шкада, на гэтым фоне не развіваецца мясцовы (лакальны) турызм. А паглядзець і наведаць у ваколіцах Глыбокага ёсць шмат чаго цікавага!

На думку аўтара гэтых радкоў, у Глыбокім мусіла быць нейкае турыстычнае агенцтва, якое ладзіла б для глыбачанаў вандроўкі выходнага дня. Не, гэта не "касяк" глыбоцкіх уладаў, што не дадумаліся, гэта – "касяк" нашых прадпрымальнікаў. Турызм – бізнес! Дзіўна, што ў Глыбокім, зрэшты, як і ў Паставах, прадпрымальнікі не занялі гэтую пустую нішу.

Вельмі перспектыўным мог бы быць маршрут, што, фактычна, ляжыць па адной наўпроставай лініі па карце – восі, на якую нанізаныя Глыбокае-Дунілавічы-Лучай-Варапаева-Паставы-Камаі-Лынтупы. Вандроўка аднаго дня! Для маладой сям'і, пенсіянераў, школьнікаў.

Не будзем падрабязна пералічваць цікавосткі Дунілавічаў, Лучая, Варапаева і Паставаў, бо на старонках нашай газеты мы неаднаразова публікавалі краязнаўчыя матэрыялы на тэмы, звязаныя з гэтымі паселішчамі. Коратка: Дунілавічы – касцёл і ўнікальны 2-х ярусны алтар; Лучай – касцёл. св. Юды Тадэвуша, які пабудавалі Агінскія; Варапаева – забудова мястэчка эпохі Рамантызму; Паставы – забудова колішняй Рынкавай плошчы ў стылі барока, палац Тызенгаўзаў, касцёл, царква.







**Лынтупы (Пастаўскі р-н). Злева – касцёл святога Андрэя Апостала (1908-14). Па цэнтру – колішні палац Бішэўскіх, які да нядаўняга часу яшчэ стаяў у руінах, сёння – у рыштаваннях. Палац узведзены ў стылі неарэнесансу 1907 г. паводле праекта архітэктара Тадэвуша Раствароўскага. Для ўладальніка маёнтка Ю. Бішэўскага створаны абагульнены вобраз венецыянскага "палаццо", размешчанага на канале і адбітага ў яго вадзе. Да палаца прылягае разлеглы парк колішняга маёнтка Бішэўскіх. У парку шмат розных цікавостак, адна з якіх – вежа ў парку (справа).**

Наведаць Камаі запрашаюць шматлікія дарожныя ўказальнікі, бадай ужо ад Бягомля. Менавіта там знаходзіцца ўнікальны касцёл-крэпасць (храм абароннага тыпу). Цікавы і інтэр'ер гэтага храма са шматлікімі роспісамі. На сцяне карціна мастака, удзельніка паўстання 1863-64 гг Алфрэда Ізідора Ромэра "Хрыстос і сірата". Каля касцёла – мінідэндрапарк і вялікі каменны крыж.

Мястэчка Лынтупы месцамі выглядае як заграніца. Шмат чырвона-цагляных камянічак. Над паселішчам узвышаецца велічны касцёл св. Андрэя Апостала. Самы цікавы аб'ект – палацава-паркавы ансамбль Бішэўскіх. Вялізны парк з каналамі, сажалкамі, мастамі і векавымі дрэвамі. Маленькая Венецыя!

Да нядаўняга часу палац Бішэўскіх стаяў у руінах, а ў сценах раслі бярозы. Палац выкупіў расейскі бізнесовец. Цяпер палац – у рыштаваннях. Пакрысе адкрываецца прыгажосць "венецыянскага палаццо".

Агулам кажучы, аўтар гэтых радкоў падаў ідэю. Можа хто і скарыстае. Да гэтага маршруту можна, хіба, дадаць толькі добры абед, з выдатнай кухняй, недзе ў Лынтупах.







**Камаі (Пастаўскі р-н). Злева – карціна мастака Альфрэда Ромэта "Хрыстос і сірата", 1870-я гг. Карціна знаходзіцца ў камайскім касцёле. Па цэнтру – касцёл святога Яна Хрысціцеля, храм-крэпасць. Звонку, у сценах касцёла, умураваныя гарматныя ядры. Менавіта гэты касцёл XVII ст. і прапануюць наведаць дарожныя ўказальнікі пры ўездзе ў Глыбокае. Справа – каменны крыж перад касцёлам, вышынёй у 2,5 м. Ён высечаны з колішняга паганскага стода (ідала).** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Апошні тыдзень Карнавалу павінен быць найбольш радасным і багатым на розныя забавы і прысмакі!

■ **Тэкст: Алена Клімза-Колтан**
**Фота: Міхаіл Тарасёнак**

**Згодна з традыцыяй нашых продкаў, апошні тыдзень Карнавалу павінен быць найбольш радасным і багатым на розныя забавы, прысмакі, бо наперадзе чакае Вялікі пост. Даўней, напярэдадні Пепельнай Серады закідвалі цымбалы, скрыпку, гармонік дзесьці на шафу, каб пасля саракадзённага посту з большай радасцю ізноў танцаваць, спяваць.**

У нашы часы аднаўлена традыцыя праваслаўнай Масленіцы, калі па ўсіх гарадах і мястэчках збіраюць людзей на традыцыйнае прадстаўленне. А вось каталікі Лучая штогод маюць магчымасць паўдзельнічаць у заканчэнні Карнавалу: звычайна адбываецца пасля святой Імшы імпрэза з удзелам таленавітых артыстаў, паэтаў. Сёлета пробашч Лучая вырашыў зрабіць заканчэнне Карнавалу запамінальным не толькі для сваіх парафіянаў. Па яго ініцыятыве быў арганізаваны канцэрт з удзелам хрысціянскага гурта "Laudans" і арт-групы "Беларусы" з Мінска. Адбывалася імпрэза ў пастаўскім Доме культуры. Гледачамі сталі, не толькі жыхары горада, але і парафій Пастаўшчыны. Не адмовіліся ад запрашэння і пастаянныя ўдзельнікі лучайскіх святаў – землякі ксяндза Мікалая з Шаркаўшчыны. На свяце прысутнічалі таксама і святары: ксёндз дэкан Павел Самсонаў з Дунілавічаў, ксёндз Анджэй Бульчак з Паставаў.

Гурт "Laudans" прадставіў некалькі твораў на словы святога Яна Паўла ІІ і нашай паэткі Ірыны Багдановіч. Выступ хрысціянскага гурта прадугледжваў заўсёды высокадухоўныя песні. Часам, зразумелыя і даступныя для ўспрыняцця не кожнаму слухачу. Дарэчы, незадоўга да канцэрта Андрэй Лугін і Алёна Плачанская ўпрыгожылі сваім спевам Лутургію ў Лучаі.



**Арт-група "Беларусы" проста запаліла залу!**

Знакамітая арт-група "Беларусы" проста запаліла залу. Багаты рэпертуар быў прадстаўлены і класічнымі творамі, і народнымі, і эстраднымі. Здаецца артысты змаглі задаволіць любы музычны густ. Уразіла тое, што кіраўнік і саліст гурта Валерый Шмат каментаваў многія творы, звязваючы іх са Збаўцам, з гісторыяй хрысціянства. Дарэчы артыст з'яўляецца яшчэ і найлепшым у нашай краіне арганістам. Насалодзіцца яго выкананнем вернікі і госці Лучая маглі летась падчас фэсту святога Тадэвуша. Важна, што Валерый Шмат валодае інструментам не толькі выконваючы класічныя творы, але несамавіта грае і спявае падчас Літургіі.

Вялікую ўдзячнасць за ідэю правядзення цудоўнага свята выказваюць землякі лучайскаму пробашчу. Бо змаглі не толькі ўзбагаціцца духоўна, культурна, але і спаткацца са сваімі добра знаёмымі пілігрымамі, з якімі неаднаразова здаралася быць разам падчас розных вандровак, арганізоўваць якія ксёндз Мікалай мае несамавіты талент і жаданне. Здаецца, як адна вялікая сям'я, віталіся, узгадвалі мінулыя пілігрымкі. Назапасіўшы цудоўныя ўспаміны ад незабыўнага канцэрта, ад шчаслівай сустрэчы з братамі-пілігрымамі, будзем перажываць Вялікі Пост.

Асаблівая падзяка святарам і ўсім валанцёрам, тым, хто дапамог сабраць усіх нас разам на гэта свята.

А ўжо ў першую нядзелю пасля Вялікадня: 23 красавіка Лучай запрашае на Свята Божай Міласэрнасці.




**Хрысціянскі гурт "Laudans".**

# Дзісненскае масла займала адно з першых месцаў у англійскім рэйтынгу

## і каштавала на 2-4 шылінгі за фунт даражэй, чым іншыя гатункі масла з Расіі



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

**Мы не прывыклі звяртаць увагі на дэмаграфію, а яна моцна ўплывае на эканоміку і іншыя бакі нашага жыцця. Калі першы мільярд жыхароў на планеце з'явіўся толькі ў 1850 годзе, то ўжо ў 1900 нас было 1,6 мільярда, у 1930 – два мільярды, а зараз 7,4 мільярда. Але людзей неабходна пракарміць. А мы не заўсёды гатовыя да гэтага.**

У 1880-х гадах нахлынуў усясветны аграрны крызіс. Вялікае развіццё новых відаў транспарту прывяло да таго, што параходы з Аргенціны, а паравозы з Украіны завалілі ўвесь свет танным зернем. Беларускія мужыкі з панамі, прыпыніўшы на час свае спрэчкі за зямлю, са здзіўленнем выявілі, што традыцыйнае земляробства ў нас не акупаецца. Спатрэбілася больш за 20 год, цэлае пакаленне, каб намацаць сваё месца ў міжнародным раздзеле працы. І выйсце знайшлі: сельская гаспадарка Беларусі масава перабудавалася на малочную жывёлагадоўлю. Канец XIX-пачатак XX стагоддзя сталі часам бурнага росту малочных арцеляў.

Асабліва шмат іх з'явілася ў Дзісненскім павеце – сённяшніх Мёрскім, Шаркоўшчынскім, Глыбоцкім, Пастаўскім раёнах. Згодна газетнай інфармацыі "Наша Ніва" №23 за 7 лістапада 1908 года, першую вялікую млячарню адчынілі ў 1905 годзе, якая ў год выпрабляла з малака да трох тысяч пудоў масла (пуд роўны 16 кг). Да 1908 года з'явілася 18 вялікіх заводаў, у т.л., 5 "хаўрусных", якія выраблялі масла.

Малако скуплялі ў сялян. На працягу шасці летніх месяцаў плацілі па 9 капеек за гарнец (50 кап. за пуд малака), за 3 зімовыя месяцы – па 12 капеек (70 капеек за пуд) і за 3 асеннія месяцы па 10,5 капеек (60 капеек за пуд). Аўтар артыкула наракаў на тое, што нашы мужыкі дрэнна кармілі кароў, што самая лепшая карова давала 500 гарцаў малака ў год, што нашых кароў у Даніі і Галандыі называлі *"апаратамі па перапрацоўцы корму ў гной"*, у той час як датчане лічылі ўжо тады дрэннай карову, якая давала 1000 гарцаў малака ў год. Гарнец раўняўся 5,6474 літра. Бяда не ў тым, што нашы продкі не ўмелі карміць кароў, а ў тым, што ў гаспадарцы быў конь – адзіная цяглавая сіла, кармілец сям'і, яму аддавалі лепшае сена і фураж. Палепшыць пароду дойнага статка не было грошай, крэдыты былі дарагія. Давалі іх пад залог маёмасці.

Памешчыкі Дзісненскага павету наладзілі кантакт з кааператывам "Самадапамога" з Рыгі, які дапамог арганізаваць збыт у Еўропу. І хутка жадаючым паспрабаваць масла з берагоў Дзісны знайшлося не толькі ў Варшаве, Рызе, Маскве, але і ў Гановеры, Гамбургу, Парыжы. Асабліва паспяхова развіваўся экспарт масла ў Англію. У 1905 годзе з Дзісненскага павету было адпраўлена ў Англію масла на 10 тысяч рублёў, у 1908 годзе – на 175 тысяч, а ў 1910 годзе на 250 тысяч рублёў. Каб чытач уявіў гэты кошт, паведамлю, што ў 1903 годзе за тры гады ў Дзісне была пабудавана бальніца на 100 ложка-месцаў коштам 41 523 рублі. Дзісненскае масла займала адно з першых месцаў у англійскім рэйтынгу і каштавала на 2-4 шылінгі за фунт даражэй, чым іншыя гатункі масла з Расіі. Збывалася без пасрэднікаў праз транспартную кантору "Герхард і Гей" у Лондане і Лідзе. Ні імператар Расіі Мікалай II, ні каралева Англіі Елізавета нават уяўлення не мелі пра гэта пагадненне. Не быў задзейнічаны і Віленскі генерал-губернатар граф Талстой і міністэрства замежных спраў гэтых краін. Пасля прыбыцця ў Англію па пошце высылаўся аванс ад 36 да 45 рублёў за бочку, астатняе – пасля поўнай рэалізацыі. На жаль, арцельшчыкі не дадумаліся зарэгістраваць асобую гандлёвую марку, і дзісненскае масла пастаўлялася пад маркай "голшцінскага". Выпрацоўка гэтага масла не патрабавала дарагіх халадзільнікаў і пастэрызацыі малака, а гатовы прадукт добра захоўваўся і на смак быў вельмі добры. Такое масла рабілі з падсоленых кіслых вяршкоў, а на продаж фасавалі ў альховыя бочкі па 50-60 кг з вушкамі для пераноскі, абшытыя чыстай рагожай.

Поспех дзісненцаў перакінуўся на правы бераг Заходняй Дзвіны. Далейшае развіццё вытворчасці масла тармазіла недастатковая вытворчасць сялянамі малака. Праблема агалілася тым, што "апараты па вытворчасці гною з кармоў" вычарпалі свае гадавыя надоі малака. Паўстала пытанне павышэння прадуктыўнасці кароў. З гэтай мэтай планавалася ў Дзісне ў верасні 1914 года правесці выставу сельскагаспадарчай птушкі і кароў. Газеты паведамілі, што Расійская чыгунка з 1 жніўня 1914 года па льготнаму тарыфу будзе пастаўляць вагоны для перавозкі "экспанатаў" сельгасвыставы да станцыі Боркавічы Арлоўскай жалезнай дарогі.

1-га жніўня 1914 года пачалася Першая сусветная вайна, якая пахавала і выставу, і высокую рэпутацыю беларускага масла. Пры панскай Польшчы рабіліся адзінкавыя спробы вярнуць гэту рэпутацыю, але ў 1939 годзе і яны былі прыпыненыя.

І калі сёння не паспее закончыцца адна "масла-малочная" вайна, якая аб'яўлена Расіяй Беларусі, як на гарызонце згушчаюцца хмары другой. Не зразумець прастому смяротнаму гэта "нерушимое" сяброўства двух брацкіх народаў. Вось зноў Рассельгаснагляд пагражаў магчымымі праблемамі на рынку Расійскай Федэрацыі прадукцыі "Савушкаў прадукт". Ох, і цярплівы наш брат беларус.

Але патрэбна шчыра прызнацца, што якасная прадукцыя можа быць выраблена з якаснай сыравіны. На жаль, мы на дадзеным этапе маем вялікі дэфіцыт сыравіны. Нашы кароўкі, у сваёй большасці і праз 110 год, так і засталіся "апаратамі для перапрацоўкі кармоў у гной". Гадавыя надоі ў 3000-4000 літраў, а дзе і 3000 няма, гэта смешныя паказчыкі. Апошнім часам шмат увагі надаецца вытворчасці малака маркі "экстра". Але ўсё гэта залежыць ад унутранага свету чалавека. Практыка паказала, што алкаголік не можа прэтэндаваць на ролю добрага працаўніка, ці то гэта мужчына, ці жанчына. Але гэтыя "хібы" ў характары чалавека адмоўна адбіваюцца і на эканоміцы. Пры наяўнасці станоўчых прыродных магчымасцяў, мы не ў стане вырабіць дастатковую колькасць сельскагаспадарчай прадукцыі. Тое ж малако і мяса, ды і канцэнтраты вымушаны купляць у суседзяў. А гэта ўжо не ідзе ні ў якія вароты.



**У 1903 годзе за тры гады, з даходаў ад дзісненскага масла, у Дзісне была пабудавана бальніца на 100 ложка-месцаў. Разбураная савецкімі танкістамі ў ліпені 1944 года.** *Фота Ул. Скрабатуна, 28.08.2011*

### Прыродныя цікавосткі Глыбоччыны

# Дрэйсена

## Хочаце вывудзіць карпа-монстра? Тады на дрэйсену!

**Уладзімір Скрабатун**

**На гэтага малюска, велічынёй з рублёвую манету, мог бы і забыцца. Але двойчы, адпачываючы на самым глыбокім возеры нашай краіны – Доўгім, наступіў на яго басаножж. Створкі вострыя, нібы лязо брытвы. Балючыя, крывацечныя парэзы, якія не хутка загойваюцца. Потым стаў абачлівым: зайшоў у ваду закінуць вуду – на нагах "шлёпанцы".**

Што гэта за малюск з паласатымі, як у зебры, ракавінамі? Здаецца, яго больш нідзе не сустракаў, ну, хіба толькі на возеры Несята ў Бабынічах (Полацкі р-н).

Трэба запытацца ў Аляксандра Красілевіча, біёлага, які некалі быў экскурсаводам па глыбоцкім Цэнтры Еўропы. Пра Аляксандра аўтар гэтых радкоў ужо не раз згадваў у сваіх публікацыях.

– Маленькі малюск у паласатых ракавінах, 3-кутнай формы, жыве калоніямі на камянях, затанулых дрэвах?– перапытвае Аляксандр.

– Так!

– Гэта дрэйсена! Не рэдкі малюск, але жыве толькі ў чыстых водах. З ім – бяда! Асабліва на водазаборах. Ён пасяляецца ў трубах, змяншае прапускную здольнасць трубаправодаў і насосных станцый. Работнікам гэтых прадпрыемстваў даводзіцца ачышчаць трубаправоды і рэзервуары. Ну, а калі дрэйсена аблюбавала днішча карабля? Зніжае яго хадавыя якасці! Пры гэтым дрэйсена вандруе па свеце і такім чынам засяляе новыя водныя прасторы.

### Што пра дрэйсену пішуць даведнікі?

Аказваецца, нешта ёсць і добрае, звязанае з дрэйсенай. Яе, як і кладофару, любяць акварыумісты. Дрэйсена – прыродны фільтратар. Малюск вагой 1 г прапускае праз сябе 5-6 літраў вады ў суткі. Гэта значыць селішча з тысячы дрэйсен у суткі чысціць ад арганічных і мінеральных завісяў, водарасцяў і бактэрый 50-60 куб. м вады. Дрэйсену ўжываюць у ежу ракі, рыбы, качкі і... чалавек для атрымання кармавога мінеральна-бялковага дадатку, што стала нагодай для гадоўлі і здабычы гэтых «азёрных і рачных зебраў».

Дрэйсены распаўсюджаныя ў трапічнай частцы Атлантычнага акіяна, у берагоў Еўропы, Малой Азіі, а таксама ў Чорным, Каспійскім і Аральскім морах. Жывуць у саланаватых і прэсных водах. Няма дрэйсены ў паўночных вадаёмах – там для яе занадта сцюдзёна.

Так, дрэйсену ўжываюць у ежу рыбы? Гэта – цікава! Ці можна на дрэйсену нешта вывудзіць, пачапіўшы яе на кручок? Можна і, нават, заліковую рыбіну вывудзіць!

Ахвотна ядуць дрэйсену буйны падлешчык, лешч і нават плотка. З задавальненнем – карп (сазан) і сом. У прынцыпе, пацвярджанне гэтаму лёгка знайсці пры звычайнай назіральнасці. Так, у ляшча ці падлешчыка, які трапляецца, іншы раз злёгку "парэзаныя" вусны. Гэта вынік кармлення ракавінкай. Плотка з падобнымі парэзамі сустракаецца рэдка.

### Як лавіць рыбу на дрэйсену?

**Першае** – малюска дастаюць з ракавінкі і насаджваюць на буйны тонкі кручок. Па цвёрдасці прынада не ахці, таму лепш будзе зрабіць некалькі праколаў. Гэты спосаб справядлівы для паплывочнага вуджэння.

**Другое** – трохі "раздушыўшы" малюска, яго чапляюць разам з аскепкамі панцыра. Гэта больш адэкватна для лоўлі большасці донных варыянтаў снасці.

**Трэцяе** – для сомікаў і буйных карпаў робяць каралі (ожерелье) з дрэйсены вычышчанай ці "раздушанай", збіраючы малюскаў на леску і маскіруючы ў іх кручок. У прынцыпе, можна і проста ўмацоўваць на кручку некалькі дрэйсен.

Натуральна, што дрэйсена не выратуе ад бясклёўя, калі рыба і зусім не хоча карміцца. Але, калі яна гультаявата чапае чарвяка, матыля і г.д. прынады, але дакладнай паклёўкі не адбываецца, дрэйсена дапаможа выйсці з такога становішча.



**Дрэйсена пасялілася на паўлітровым слоіку, а цяпер, уявіце, што будзе, калі яна аблюбуе днішча карабля!**

# Без правоў ты не праў!

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на папярэджанне дарожна-транспартных здарэнняў асобамі, якія не маюць правы кіравання транспартнымі сродкамі.**

■ **Ю.В. Заяц,**
*часовы выканаўца начальніка ДАІ Глыбоцкага раёна.*

Па віне дадзенай катэгорыі асобаў у 2016 годзе здзейснена 28 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх загінулі 7 і атрымалі раненні 26 грамадзян. Пры гэтым, 65,0% указаных ДТЗ зарэгістравана ў сельскай мясцовасці, 47,0% вінаватых дадзенага віду ДТЗ знаходзіліся ў стане ап'янення, а 50,0% былі пазбаўленыя правоў кіравання ўсімі відамі транспартных сродкаў.

У сувязі з гэтым хацелася б звярнуцца да грамадзян, якія не абыякавыя да становішча, якое складваецца на дарогах, і могуць аказаць садзейнічанне ў выяўленні асобаў, кіроўцаў транспартных сродкаў, якія не маюць правоў кіравання, калі Вы валодаеце пэўнай інфармацыяй аб тым, што такія асобы кіруюць транспартнымі сродкамі, просім паведаміць у дзяжурную частку Глыбоцкага РАУС на тэлефон 102 (кругласутачна), у працоўны час на тэлефон 2-27-78.

# З кожным годам усё большай папулярнасцю стаў карыстацца кляновы сок

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**У асноўнай сваёй масе насельніцтва нарыхтоўвае бярозавы сок, але з кожным годам усё большай папулярнасцю стаў карыстацца кляновы сок.**

Нягледзячы на тое, што ў Беларусі ён не нарыхтоўваецца ў прамысловых маштабах, шматлікія жыхары нашай краіны збіраюць яго самастойна. Гэты напой багаты карыснымі хімічнымі элементамі: жалезам, кальцыем, натрыем, фосфарам і іншымі, таксама ў ім утрымоўваюцца важныя для арганізма вітаміны; С, В, Е. Яшчэ ў далёкую даўніну кляновы сок згадваўся ў народных "лячэбніках".

Кляновы сок гэта скарбніца антыаксідантных злучэнняў, якія вельмі карысныя ў барацьбе з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі. У народнай медыцыне кляновы сок выкарыстоўваюць для лячэння нырак і печані. Таксама яго прымаюць пры авітамінозе. Ён мае танізавальную, жоўцягонную і агульнаўмацавальную ўласцівасць.



**Піце кляновы сок і будзеце здаровымі!**

Сезон збору кляновага сока лічыцца сакавік і красавік. Ён не адрозніваецца доўгім тэрмінам захоўвання, таму з яго часта робяць кляновы сіроп, тэрмін прыдатнасці якога 1 год. Піце кляновы сок і будзеце здаровыя.

Па ўсіх пытаннях нарыхтоўкі драўняных сокаў можна звярнуцца ў лясніцтва па месцы жыхарства, лягсас або ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю на тэлефоны: 8-02156- 55980, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# З 1 ліпеня ўлады збіраюцца апісваць маёмасць «дармаедаў»

**Падатковыя пачнуць адпраўляць адміністрацыйныя пратаколы ў суды.**

На брыфінгу ў Гомельскім аблвыканкаме начальнік галоўнага ўпраўлення юстыцыі Валянцін Макарэвіч распавёў, што выпадкаў вопісу маёмасці ў тых, хто не выплаціў падатак на «дармаедства», пакуль не было, такая працэдура можа пачацца не раней за1 ліпеня, паведамляе **kp.by.**

Да гэтага часу падатковым інспекцыям дадзены тэрмін для падрыхтоўкі матэрыялаў для прымусовага выканання рашэнняў:

*– Пасля таго як падатковы орган зразумее, што грамадзянін злосна ўхіляецца, не жадае аплачваць, прадстаўляецца неабходны пакет дакументаў натарыусу, які здзяйсняе выканаўчы надпіс, і гэты дакумент накіроўваецца ў аддзел прымусовага выканання.*

Тэарэтычна працэдура можа прайсці праз суд – калі падатковая складзе адміністрацыйны пратакол.

*– Але ў суд справа можа быць накіраваная толькі ў тым выпадку, калі грамадзянін не выплаціў ні капейкі. А калі хоць бы мінімальная сума выплачана, суд не можа разглядаць такія справы*, – адзначыў юрыст.

Ён дадаў, што нават пасля ўзбуджэння выканаўчай вытворчасці даўжніку дадуць тэрмін для добраахвотнай выплаты збору. Калі той ізноў не заплаціць – будзе апісаная маёмасць, але і пасля гэтага даецца дадатковы час для добраахвотнай выплаты.

*Паводле kp.by*

# Супраць Полацкага прадпрымальніка, які ўхіляўся ад выплаты падаткаў, узбудзілі крымінальную справу

**Наваполацкі міжраённы аддзел фінансавых расследаванняў КДК выявіў, што 39-гадовы прадпрымальнік з Полацка не адзначыў у бухгалтарскай дакументацыі больш за 200 000 рублёў выручкі.**

З мэтай мінімізацыі падатковых плацяжоў індывідуальны прадпрымальнік хаваў частку выручкі. Аднак, падчас праверкі была выяўлена і канфіскавана яго «чорная бухгалтэрыя». У выніку сталася, што ён не выплаціў 62 000 рублёў падаткаў.

Па матэрыялах праверкі абласным упраўленнем Следчага камітэта ў адносінах бізнэсмэна была ўзбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 243 КК. Палачанін сваю віну прызнаў і цяпер прымае меры для пакрыцця прычыненай шкоды, паведамляе прэс-служба КДК.

***ННВ.***

# Тарыфы на пасажырскія перавозкі ў Беларусі ў 2017 годзе павышаць не плануецца – Сівак

**Тарыфы на пасажырскія перавозкі ў Беларусі ў 2017 годзе павышаць не плануецца. Аб гэтым паведаміў міністр транспарту і камунікацый Беларусі Анатоль Сівак на прэс-канферэнцыі ў прэс-цэнтры БЕЛТА.**

“Планаў па павышэнні тарыфаў на перавозкі пасажыраў у гэтым годзе няма, – расказаў кіраўнік Мінтранса. – Эканамічная аснова гэтага рашэння зыходзіць з таго, што па выніках мінулага года акупнасць пасажырскіх перавозак склала 64,2 працэнта. Сёння параметры бюджэту закладзены пад акупнасць 65 працэнтаў, гэта значыць нам трэба зменшыць расходы недзе на 0,8 працэнта. Я ўжо гаварыў аб вялікім комплексе мерапрыемстваў па павышэнні эфектыўнасці – яны якраз і накіраваны на зменшэнне расходаў. Гэта і ляжыць у аснове непавышэння тарыфаў”.

***БелТА.***

# У Беларусі павалічаны кошт на звадкаваны газ у балонах для насельніцтва

Пастановай Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю ад 23 лютага 2017 года №14 павалічаны кошт на газ звадкаваны, які рэалізуецца насельніцтву ў балонах. Адпаведная інфармацыя змешчана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА. У адпаведнасці з дакументам кошт на газ звадкаваны для запраўкі газавых балонаў аб'ёмам 1 л (0,4 кг), 5 л (2,0 кг), 12 л (5,0 кг), 27 л (11,4 кг), якія рэалізоўваецца насельніцтву, усталяваны ў памеры Br1 за 1 кг. Цяпер кошт 1 кг газу звадкаванага складае 65 капеек. Пастанова ўступае ў сілу 4 сакавіка 2017 года.

***БелТА.***

**Крэатыў ад выратавальнікаў – мультыплікацыйныя фільмы па бяспецы для дзяцей!**

# “Чароўная кніга МНС”

**Зусім нядаўна МНС Беларусі запусціла новую інфармацыйную кампанію, “Ганарымся, што навучылі!”, заклікаючую матываваць бацькоў навучаць дзяцей бяспецы. Не прайшло і некалькіх месяцаў і зноў крэатыў ад выратавальнікаў -мультыплікацыйныя фільмы па бяспецы для дзяцей “Чароўная кніга” МНС.**

Навучыць дзяцей бяспечным паводзінам, растлумачыць простыя, але вельмі важныя праўды, данесці да дзетак, што трэба быць асцярожнымі і ўважлівымі, берагчы сваё жыццё і здароўе - так у некалькіх радках тлумачаць выратавальнікі мэту стварэння мультфільмаў.

Аўдыторыю, для якой ён уласна і распрацоўваўся можна пазначыць як 4+. Запамінальныя персанажы, яркая анімацыя, дынамічны і павучальны сюжэт, усе сродкі выкарыстоўваліся для таго, каб мультфільм быў цікавым для дзяцей. Але трэба дадаць, што ён выдатна падыдзе і для сямейнага прагляду, бо гісторыі па бяспецы будуць карысныя і бацькам, якія разам з дзецьмі пазнаюць, як правільна карыстацца электрапрыборамі, чым небяспечны тонкі лёд, як выклікаць выратавальнікаў, што трэба рабіць, калі ў хаце адбыўся пажар, як карыстацца піратэхнікай і яшчэ шматлікае іншае.

Галоўныя героі – лясныя жыхары – заяц, бабёр, воўк і птушачка. Мілыя і вельмі сімпатычныя персанажы трапляюць у розныя надзвычайныя сітуацыі, бо яны, уласна як і звычайныя людзі, могуць парушаць правілы бяспекі ці зусім іх не ведаць. Звяркі эксперыментуюць, спрабуюць разабрацца і вучацца правільна сябе паводзіць. А дапамагае ім у гэтым чароўная кніга, з якой не растаецца разумны бабёр. Менавіта яна, падказвае сябрам, як паступіць у той ці іншай сітуацыі, як пазбегнуць непрыемнасцяў, заўсёды дапамагае прыняць правільнае рашэнне.




Начальнік цэнтра даследаванняў у вобласці бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеянні з грамадскасцю НДІ ПБ і НЗ Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь – Алена Георгіеўна Дзмітрук:

*“Кожная серыя мультфільма-гэтаасобнаятэма, якая абрана невыпадкова. Дзіцячае свавольства з агнём, небяспечныя месцы для гульняў, паводзіны на вадаёмах узімку і ў летні перыяд, паводзіны на прыродзе – усё гэта ўяўляе небяспеку для дзяцей і ў рэальным жыцці. Менавіта таму выратавальнікі паспрабавалі на гэтым зрабіць акцэнт і, выкарыстоўваючы мультфільмы, навучыць дзяцей правілам бяспекі, растлумачыць, што гэтыя веды дапамагаюць пазбегнуць шматлікіх непрыемнасцеў у жыцці і вучаць быць асцярожнымі. Мультфільм складаецца з 9 серый, хуткім часам мы плануем працягнуць працу і дапоўніць мультфільм новымі гісторыямі па бяспецы”.*

Паглядзець мультфільм вы можаце на “Youtube-канале МНС”, у сацсетках Вконтакте і Facebook, ці проста ўвесці запыт “Чароўная кніга МНС” у любым інтэрнэт-пошукавіку.

**Іна Чугай,**
*Рэспубліканскі цэнтр прапаганды МНС.*

